*Адв. Пятрусэвіч.* Ня ведаеце, колькі выходзе цяперака беларускіх часапісаў пад Польшчай.

*Сьв.* У Заходняй Беларусі выходзе цяперака каля 10 беларускіх часопісаў, ня лічачы тых, што выцаюцца ў беларускай мове, але не беларускія, бо служаць патрэбам не беларускім, але чужым і працуюць па загаду.

Адв. *Пятрусэвіч.* Як шмат часапісаў было за Грамады.

*Сьв.* За Грамады было меней.

Адв. *Пятрусэвіч.* Ці газэта ля Віленскай вул. 12 цяпер выходзіць.

*Сьв.* Але.

Адв. *Пятрусэвіч.* Значыцца як выходзілі грамадаўскія газэты за Грамады так выходзяць і цяперака.

*Сьв.* Але. Толькі трэба заценіць, што яны афіцыяльна ня былі ворганамі Грамады, а толькі пашыралі грамадаўскаю ідэёлёгію.

*Прок.* Сьведка чытаў інструкцыю Грамады, тамака была рада, якія газэты трэба чытаць.

*Сьв.* Інструкцыю чытаў, але рады ня помню.

Адв. *Пятрусэвіч.* Сьведка казаў, што ёсьць часапісы ў беларускай мове, але не беларускія; якія гэта часапісы?

*Сьв.* Гэта — „Грамадзянін“, „Беларускі Дзень“ „Беларуская Культура“ і „Беларускі Радны“.

Адв. *Пятрусэвіч.* Чаму ваша лічыш „Беларускі Дзень“ часапісам небеларускім?

*Сьв.* Бо ён ёсьць у беспасярэдняй залежнасьці ад урадовых дзейнікаў і піша ня з гледзішча патрэбаў беларускага народу, а тое, што яму загадаюць.

Адв. *Пятрусэвіч.* Як „Бел. Дзень“ адносіўся да незалежнасьці Беларусі?

*Сьв.* „Бел. Дзень“, як і „Беларуская Культура“ пісалі за незалежнасьць Беларусі. У значнай часьці, мо ў каля паловы нумараў, „Б. Д.“ аб гэтым ясна пісалася і гэта падчыркавалася.

Адв. *Пятрусэвіч.* Ці Бел. Хрысьц. Дэмократыя стаіць за незалежнасьць Беларусі?

*Сьв.* Але, так сама Хрысьц. Дэмократыя, як і іншыя беларускія кірункі.

Адв. *Пятрусэвіч.* Ці Грамада дамагалася зямлі за выкуп ці дарма?

*Сьв.* Як Грамада, так сама і ўсе іншыя беларускія палітычныя кірункі дамагаюцца зямлі бяз выкупу. Я ня знаю такой беларускай арганізацыі палітычцай, каторая-бы дамагалася зямлі за выкуп.

Абв. *Тарашкевіч.* Ці праўда, што я ў 1917 г. быў у Меншчыне бальшавіцкім камісарам?

*Сьв.* Не, п. Б. Тарашкевіч ня быў бальшавіцкім камісарам, ён быў далёкі ад бальшавізму. У 1917 г. ён пісаў беларускаю граматыку, а ў 1918 г. яе надрукаваў у Вільні, прыехаўшы сюды з Фінляндыі праз Балтыцкае мора.

Адв. *Пятрусэвіч.* Што рабіў у 1918 г. ў Менску абв. Шнаркевіч?

*Сьв.* Працаваў у Беларускай Школьнай Радзе.

Адв. *Пятрусэвіч.* А што ён рабіў у Вільні?

*Сьв.* Так сама працаваў у Т-ве Беларускае Школы.

Адв. *Пятр.* А ці Я. Шнаркевіч палітыкай не займаўся?

*Сев.* Не, Я. Шнаркевіч ужо па сваёй прыродзе далёкі ад усялякай палітыкі.

Адв. *Крыжаноўскі.* На якім сьпіску кандыдаваў у Сойм абв. Р. Астроўскі?

*Сьв.* На тым сьпіску, што і я. на сьпіску 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў, я з вокругу Лідзкага, а ён з Наваградзкага.

Сьведка б. пас. *Хамінскі* наказуе аб Б. Тарашкевічу, знае яго ўжо 20 год. Яны калісь разам вучыліся ў II віленскай гімназыі. Па скончаньню гімназыі яны разышліся, бо Тарашкевіч вучыўся ў Пецярбурзе, а сьведка ў Кракаве. За Сярэдняй Літвы Б. Тарашкевіч быў віцэдырэктарам дэпартамэнту асьветы. Як чалавек высака культурны, ён карыстаўся сымпатыяй у ўсей віленскай польскай дэмократыі. У Сойме Б. Тарашкевіч разам з усім Беларускім Клюбам займаў спачатку гаспадарьцьвенае становішча. Сьведка помне, як Б. Тарашкевіч сказаў ў сваёй саймовай прамове: „Калі польская дэмократыя не бярэ поўнай адказнасьці за ўрад Сікорскага, але галасуе за яго — дык хоць гэта й пагатове ня наш урад, мы яго падзьдзержым“. Урад Сікорскага абяцаў шмат, але нічагусенькі ня споўніў. Настала рашчараваньне. Год 1923 гэтае рашчараваньне яшчэ павялічыў. Наступныя ўрады Беларусам нічагусенькі не далі.

Старшыня суду *Аўсянка.* Можа Вала ня будзеш характарызаваць дзейнасьці ўрадаў, але дзейнасьць Тарашкевічаву.

*Сьв.* У маім глыбокім перакананьню Тарашкевіч, як чалавек культурны, як той, што імкнуўся да нацыянальнай сьвядомасьці свайго народу, дайшоў да пагляду, што дарогай формальнай констытуцыі, зьверху нічога для справы беларускай ня зробіць. Настае тады зварот у спосабах дзеяньня. Хоча тае самае мэты дапяць іншай дарогай, зьнізу, дарогай арганізаваньня масаў, сьвядомых сваіх правоў і павіннасьцеў. Настае пара арганізаваньня „Грамады“. На гэтаю дарогу папхнулі яго ніколі ня споўненыя абяцаньні ўрадаў, каторыя жаднай з абяцанак ня споўнілі. Навет каб мецi карысьць зь языковых уставаў патрэбна масавая арганізацыя, якой была „Грамада“.

Адв. *Бабянскі.* Што скарысталі Беларусы зь языковых уставаў?

*Сьв.* Надта мала, бо ўставы адміністрацыя сабатавала. Былы куратар віленскі Рыневіч казаў мне, што былі дамаганьні беларускай школы, але ўлады школьныя ня ведалі што рабіць.

Аб. *А. Луцкевічу* сьв. Хамінскі кажа, што ён, пачынаючы з 23 г., ў жыцьцю палітычным ня прыймае ўчасьця. Тое самое кажа сьв. Людвік Абрамовіч, пацьвярджаючы пры тым, што А. Луцкевіч да Грамады не належыў.

Сьв. *Раман Скірмунт.* Астроўскага пазнаў у 1916 г. як выдатнага беларускага дзеяча, сур'ёзнага і зь вялікай інтэлігенцыяй. У 1917 г. быў камісарам ураду Керанскага. На гэтым цяжкім становішчу паказаў сябе як найлепей. Як прыйшлі бальшавікі, ён уцёк да Дэнікіна. Астроўскі рабіў даймо (уражаньне) чалавека дастатнага. Спачуцьця да комунізму ў Астроўскага нікалі ня было.

## Da hramadzkaj pracy haspadarskaj!

Pa pryłučeńniu Biełaruskaha ci, jak paźniej jaho nazwali, Wilenskaha Sajuzu Kooperatywaŭ da Sajuzu Polskich Kooperatywaŭ biełaruskaja haspadarskaja praca kooperatyŭnaja pamału zamirała i ciapier ab joj wielmi mała čuwać. Stałasia heta z taje pryčyny, što Polski Sajuz Kooperatywaŭ kooperatyŭnych dziejačoŭ biełaruskich abo zwolniŭ, abo pierawioŭ jich u Polšču, a na jichniaje miesca prysłaŭ Palakoŭ. Hetyja apošnija nia znali našaha žyćcia i nia pryjmali pad uwahu patrebaŭ našaha narodu. Z hetaje pryčyny kooperatywy stanawilisia dla našaha narodu čužymi, świadomyja Biełarusy ź ich abo wychodzili abo rabilisia ŭ jich biaździejnymi.

Dalej pašyrylisia ŭ nas kooperatywy ziemlarobska-handlowyja („rolniczo-handlowe“), katorych ciapier jošć 11. Hetyja kooperatywy ŭ nas apanawany blizu što ŭsiudy panami; sialanie da jich kali dzie i ŭchodziać, dyk žadnaha značeńnia nia majuć. Z Polščy pryjšli da nas kooperatywy małačarskija, apanawany jany pierawažna asadnikami. Toje-ž treba skazać i ab kooperatywach kredytnych. Hetakim paradkam ciapieraka majem u Zachodniaj Biełarusi ažno čatyry kooperatyŭnyja sajuzy: 1) kooperatywaŭ spažywieckich, 2) ziemlarobska-hnndlowych, 3) małačarskich i 4) kredytowych. Z hetych sajuzaŭ tolki pieršy pryjmaje krychu pad uwahu patreby biełaruskija, ale j to wielmi mała.

Dyk niama dziwa, što świadomaje biełaruskaje nasialeńnie nia tolki ŭważaje kooperatywy ustanowami ŭradowymi, ale čurajecca jich, dumajučy, što jamu dawoli zapisacca ŭ biełaruskija palityčnyja dy kulturnyja arhanizacyji.

A tymčasam heta nia tak. Aprača arhanizacyjeŭ hramadzkich, kulturna-aświetnych i palityčnych, kožnamu narodu nieabchodnyja i arhanizacyji haspadarskija. Nielha skazać, kab hetaha ŭ nas zusim nie razumieli. Asabliwa ŭ wapošnim časie hetym stali ci-

E. AREŠKA.

# CHAM.

Drama ŭ 4 dziejach ź sialanskaha žyćcia.

ŹJAVA 7-aja.

PAŬLUK — PRONKA.

PAŬLUK (chapaje Pronku za plačo, zatrymluje, pichaje na siaredzinu chaty i začyniaje dźviery; pośla biare jaje za rucce i ciśnie jich tak mocna, što Pronka kryknuła). Prysiahała žyć pa Božamu, a durstwa ŭ hałavie.

PRONKA (vyryvajučy rucce). A!...

PAULUK. Prysiahała?

PRONKA (za złościaj). Nu, dyk što?...

PAŬLUK. Adkazuj chutčej! Chutčej adkazuj! Prysiahała?...

PRONKA (hledziačy na jaho, pamału mianiaje vyražeńnie tvaru). Hej, Paŭluk! Jak tabie choraša z hetym hnievam? Padabaješsia ty mnie!.. pamaładzieŭ! (Kidajecca jamu na šyju). Milenki!... moj brylancik.

PAŬLUK (surova). A ab hrechu nia dumaješ? Zapraŭdy nia dumaješ?... Alaksieja palubiła?... Kažy, ale tolki praŭdu!

PRONKA (śmiajučysia). Durny!.. Voś jašče! Chaj henaha chama čerci! Tak jon mnie ŭ hałavie, jak letašniaja zima. Jamu mužycki pachnuć. Nie jaho ja lublu, a ciabie, Paŭlučok, moj ty milenki, moj daraženki!...

PAŬLUK (supakojiŭsia i hładzić jaje pa hałavie). Nu, dobra, dobra, dobra ŭžo!.. Kab tolki biaz hrechu.

PRONKA. Moža-b ty źjeŭ čaho? (Siadaje j hryzie cukierki).

PAŬLUK (padyjmaje knižku, katoraju pierad hetym Pronka nienarokam škinuła na ziamlu). Źjem paśla... ciapieraka nie hałodny... ale ja maju da ciabie, Pronka, adnu prośbu, dy nia maju advahi.

PRONKA. Ja dziela ciabie, Paŭluk, usio zrablu, kali patraplu... (Hryzie cukierki).

PAŬLUK. Nu, kali ŭžo ty takaja dobraja, dyk zrabi łasku, navučy mianie čytać: ja ŭžo daŭno chacieŭ prasić ciabie. Voś tolki hetaha zaviduju tabie i jinšym, što ŭmiejecie na knižcy Pana Boha chvalić. Ciahacca pa świecie ja nia lubiŭ, dyk i ničoha nia viedaju, a ŭ knižkach ab usim napisana. Kaliści ja krychu raźbiraŭ litary, vučyŭ mianie adzin,—ale ŭžo zabyŭsia, a ciapieraka iz žonkaj i heta ščaście ŭziaŭ u chatu. U knižkach jošć šmat sposabaŭ, kab zrabić dušu ludzkaju bielenkaj, jak hałubka.

PRONKA. Dreń duša, dreń hałubka, ale što pa knižkach cikavyja historyi apisujuć, — heta praŭda, i, kali chočaš, pakažu. Kupi tolki lamentar.

PAŬLUK. Kuplu, daliboh, kuplu, ale j na knižcy možna—chacia-by i na hetaj. (Biare z šafy knižku, rassypajucca śviatyja abrazki).

PRONKA (padyjmajučy adzin). Bačyš hetaha aniołačka?.. Heta pamiatka ad adnaho lakaja, u katoraha ja na śmierć była ŭlubiŭšysia ŭ Horadnie.

PAŬLUK (nachmuryŭšysia). Pakiń ŭžo, pakiń hetyja papierki!.. niahodnyja jany, jak i twajo daŭniejšaje žyćcio...

PRONKA (za złościaj). U ciabie dyk usio niahodnaje... a abrazok charošy. (Pryhladajecca da abrazka).

PAŬLUK. Nu, pakažy! — Abiacała navučyć...

PRONKA (hryzie cukierki). Daj knižku i hladzi: (pakazuje jamu). Voś heta pieršaja litara: „a“, paŭtary—„a“!

PAŬLUK (padyjmaje vysaka brovy, moršča łob, padyjmaje huby, a ruki pad stałom na kalenkach tak łamaje, što až sustavy traščać). „a“, a heta, a heta?

PRONKA (hryzučy ŭsio cukierki). A heta „b“, „o“—„h“... (Paŭza).

PAŬLUK (jak vyšej). „o“ (Abmyliŭsia). Bačyš Pronka, ja da hetaha nia prywykšv, ale, pąčakaj, milenkaja, krychu, i ja pryvyknu... (Čytaje).

PRONKA. Voś durny!.. kaže „a“, kali—„o“... voś!... mužyckaja hałava! — Taki ty da čytańnia, jak voł da karety.

PAŬLUK. Nu, Pronka, nia złujsia: ja pryvyknu paśla, a ciapieraka ty, moža, spać chočaš užo, bo zło da ciabie prystupaje... Ja pajdu na rečku, a ty prypilnuj viačeru... Dziakuju, tabie, Pranuśka! (Złažyŭšy knižku, kładzie jaje na miescy).

PRONKA. Viačeru prypilnuju, ale, što da karoŭ, dyk dajić jich nia budu, a tak sama i vady nasić... (za złościaj).

PAŬLUK (uziaŭšy šapku). Nu, nu, dreń... chaj sabie budzie pa tvojmu, kab tolki tabie dobra było i kab ty sama była dobraj.. (Pajšoŭ).

ŹJAVA 8-aja.

MARCELKA — PRONKA.

PRONKA (časinu kratajecca kala piečy j plaje).

MARCELKA (usunuła praz vakno hałavu i kaža pacichu). Niama jich! Pajšli?...

PRONKA. Niama. Pajšoŭ.

MARCELKA. Nu, tady ja ŭvajdu. (Uchodzić). A ja da ciabie z navinoju pryšła.

PRONKA (z ažyŭleńniam). Ź jakoj?

MARCELKA. Viedaješ jakijaś pany pałac uziali na leta.

PRONKA (z radaściaj). Praŭda?... a maja-ž ty milenkaja, čamu-ž ty piarviej nie kazała?

MARCELKA. Zabyłasia.

PRONKA. Oj! Cikava, chto takija. Moža j znajomyja!... A nia viedaješ, Marcelka, ci bahatyja, ci maładyja, ci šmat majuć słuh?

kawicca šyrokija hušču biełaruskaha świadomaha nasialeńnia. Ale dziela taho, što arhanizacyji haspadarskija ŭ nas byli ŭ rukach čužych, što nia ŭmieli prytarnawacca da našaha narodu, a biełaruskich arhanizacyjeŭ, pracujučych na haspadarskaj niwie, nia było, dyk sprawa dalej zacikaŭleńnia nia jišła.

Praŭda, pawodle statutu haspadarskaj arhanizacyjaj byŭ „Biełaruski Instytut Haspadarki j Kultury", ale dahetul jon haspadarskaj pracaju nie zajmaŭsia.

Zatoje ciapier z pryjemnaściaj dawiedawajemsia, što zakładasia biełaruskaja arhanizacyja, hałoŭnaj metaj katoraj jość haspadarskaja praca. Arhanizacyjej hetaj jość Biełaruski Haspadarski Źwiaz *), zaćwierdžany ŭžo ŭładaju na Wilenskaje wajwodztwa.

Jak nam wiedama, Biełaruski Haspadarski Źwiaz nja skirawany proci žadnaj biełaruskaj kulturnaj ci haspadarskaj arhanizacyji i liča jich swaimi siabrami pawodle ideji.

Ahulnym zadańniam Biełaruskaha Haspadarskaha Źwiazu jość twaryć tak haspadarskaje žyćcio ŭ Zach. Biełarusi, kab Biełarus byŭ u jim paŭnapraŭnym i raŭnapraŭnym hramadzianinam.

Biełaruski Haspadarski Źwiaz budzie arhanizawaci roznaju haspadarskaju pracu i mieci apieku nad arhanizacyjami haspadarskimi (roznyja kooperatywy) i kulturnymi.

Budzie źwierniena wialikaja ŭwaha na arhanizacyju kooperatywaŭ spažywieckich, małačarnieŭ, kasaŭ i kooperatywaŭ lannych (alejni, mialni i da hetaha pad.).

Kab z kooperatywu brali padatkaŭ nia hetulki, kolki iz zwyčajnych kramaŭ, a tolki ćećwierć taho, treba, kab kooperatyŭ byŭ zarehistrawany ŭ rewizyjnym źwiazie (sajuzie). Dahetul biełaruskaha rewizyjnaha źwiazu niamašaka. Dziela hetaha kooperatywy, što buduć uźnikać z inicyjatywy Biełaruskaha Hasp. Źwiazu prymušany buduć naležyć da rewizyjnych źwiazaŭ dahetul u nas isnujučych, značycca polskich, načaj kažučy musiać naležyć da wyšmienawanych kooperatyŭnych źwiazaŭ. Biełaruski Haspadarski Źwiaz budzie imknucca, kab henym kooperatyŭnym źwiazam prydać krajowy charaktar, kab Biełarusy čulisia ŭ jich, jak doma. Kali-b akazałasia, što hetaha nielha dapiać, dyk Biełarusam pryšłosia-b raźwitacca z henymi kooperatyŭnymi źwiazami.

Imknieńnie biełaruskaha narodu da haspadarskaj arhanizacyji jość nam zarukaj taho, što biełaruskaja haspadarskaja praca budzie ŭdačnaj.

Wiedama, pobač z pracaju haspadarskaj pawinna iści i praca kulturnaja.

*Kooperatar.*

---

*) Hetak dobra nazwany pabiełarusku „sojuz". Słowo „sojuz" nie biełaruskaje, ale maskoŭskaje, ci baŭharskaje.

## Biełaruski Haspadarski Źwiaz.

Wilenski wajwoda zaćwierdziŭ Statut Biełaruskaha Haspadarskaha Źwiazu. Statut zaćwierdžany pakul što tolki na Wilenskaje wajwodztwa, h. zn. na pawiety:

Wilenska-Trocki, Ašmianski, Maładečanski, Wialejski, Świancianski, Pastaŭski, Dzisienski j Brasłaŭski.

U ćećwier 3 maja była ŭ Wilni Ahulnaja Zborka siabroŭ Biełaruskaha Haspadarskaha Źwiazu. Na Zborcy byŭ wysłuchany referat ab zadańniach i budučaj pracy Źwiazu dy byŭ wybrany Centralny Urad Źwiazu. U ŭrad abrany pasoł dr. J. Stankiewič (staršynia), hram. Antanina Astroŭskaja, J. Maraška, E. Paŭkšta i K. Kisiel.

Na Ahulnaj Zborcy adnahałosna pastanoŭlena padać Statut Bieł. Hasp. Źwiazu ŭ Ministerstwa dziela zaćwierdžańnia na ŭsiu Polšču. Pastanowa hetaja ŭžo spoŭniena. Spadziajemsia, što borzda Statut Źwiazu budzie i ministerstwam zaćwierdžany i tady možna budzie zakładać miascowyja Tawarystwy Źwiazu pa ŭsiej Zachodniaj Biełarusi, a nia tolki, jak ciapier, u waŭnym Wilenskim wajwodztwie.

*Što maje prawa rabić Biełaruski Haspadarski Źwiaz?*

Pawodle swajho Statutu Bieł. Hasp. Źwiaz maje pamiž jinšym prawa: zakładać usialakija kooperatywy, rabić wystaŭki, rabić lekcyji, hulać spektali j wiečaryny, zakładać kursy, čytalni, biblijoteki, kniharni, narodnyja damy i šmat čaho jinšaha.

*Jak zakłaści miascowaje T-wa (hurtok, hrudok) Źwiazu?*

Zakłaści Tawarystwa (hurtok) Źwiazu možna dwajakim sposabam. Možna sklikać Zborku (schod), dastaŭšy na heta dazwaleńnie Starasty na joj pastanawić arhanizawać miascowaje T-wa B. H. Źwiazu i wybrać Urad T-wa z troch čaławiekaŭ. Tady pawiedamić ab hetym Centralny Urad Źwiazu, prosiačy zaćwierdzić T-wa. A moža być i sposab druhi, hetaki: napierad prywatna ŭmowicca z kaho budzie składacca Urad T-wa (staršynia, skarbnik, pisar) i nakazać ab hetym Centralnamu Uradu, prosiačy zaćwiardzić T-wa. U pieršym i druhim prypadku Centr. Urad sam rehistruje ŭ pawiatowaha starasty nowazakładzienaje T-wa Źwiazu.

*Arhanizacyjnaja Zborka ŭ Miednikach Bieł. Hasp. Źwiazu.*

13 maja ŭ Miednikach Biełaruski Haspadarski Źwiaz arhanizuje Zborku z hetakim paradkam dnia:

1) pramowa pasła d-ra J. Stankiewiča ab Biełaruskim Ruchu i patrebie ŭ jim haspadarskaj pracy.

2) arhanizacyja Miednickaha T-wa Bieł. Hasp. Źwiazu.

3) arhanizawańnie kooperatyŭnaj małačarni.

*Tymčasowy adres Centralnaha Uradu Biełaruskaha Hasp. Źwiazu hetaki:*

Wilnia, Nowy Świet, wul. Turgielskaja 22 kw. 3.

## Janka Dubnik z wastrohu zwolnieny.

Instruktar špisku 41 Biełaruskich Sialan i Rabotnikaŭ u Lidzkim wokruzie, Janka Dubnik, zwolnieny 4 maja z łukiskaj turmy pad kaŭcu 500 zał. Kaŭcu pałažyŭ pasoł dr. J. Stankiewič.

## Adkaz Dwarčaninu j „Голасу Працы".

Pawažany Hramadzianinie Redaktaru, kali łaska, nie admoŭciesia nadrukawaci ŭ „Narodzie" hetych niekalki słoŭ adkazu redakcyji „Голасу Працы" j pas. d-ru I. Dwarčaninu.

U Nr. 5 „Голасу Працы" ŭ zaciemcy „Z Sojmu" čytajem: „Z hetych kołaŭ (z Sojmu—*J. St.*) pieradajuć prosta *ahidny fakt, što Janka Stankiewič nie zachacieŭ padpisać samoha ŭniosku klubu „Zmahańnia"* (była propozycyja ab prypynieńniu sudowaj sprawy proci pasłoŭ Stahanowiča j Hreckaha—*J. St.*) ... *tłumačačy, što klub „Zmahańnia" łaje jaho ŭ hazetach*". Prypaminajuć, što *jon tak sama nie zachacieŭ padpisać raniej uniosku klubu „Zmahańnia" ab spynieńni sudu nad Hramadoj, tłumačučy prosta „niapryzwaitaściaj wyrazaŭ"*. Dalej gazeta jašče dadaje, što ja byccam „nahła łhaŭ, kažučy, što jon stajić za sialan i rabotnikaŭ, što ź jim idzie nacyjanalnaja čaść b. Hramady" i kančaje hetak: „naš spadar tut prosta bajicca pakazacca „неблаганадежным" pierad swajimi panami, jakim naniaŭsia".

Woś-ža ja, prypierty da ściany, prymušany adkazawać.

Naŭpierad konstatuju, što ja skazaŭ *samomu* klubu „Zmahańnie", što jon świadoma niesprawiedliwa łaje mianie ŭ swajich gazetach, ale nie kazaŭ hetaha publična i nie drukawaŭ. A kali klub „Zmahańnie" sam *publikuje*, što heta *jon bajicca* ŭ *gazetach*, dyk heta jaho dzieła. „Znahańniu" ja nie patrabawaŭ kazać točna, chto iz „Zmahańnia" łajicca ŭ gazetach, bo jamu biez kazańnia wiedama, ale jak heta stała apublikawana, liču swajej pawinnaściaj skazać točna, što nia ŭsie pasłowie „zmahancy" łajacca, redagujučy „Голас Працы" (bo łajanka drukawałasia biez podpisaŭ), ale adzin dr. Z. Dwarčanin.

Ciapier moj adkaz robicca praściejšym: zamiest adkazawać niawiedama adkaznamu redaktaru, mahu adkazać p. dr. Z. Dwarčaninu.

P. dr. J. Dwarčanin mieraje na swoj aršyn, kažucy, što ja bajusia pakazacca „niebłahonadziežnym" pierad swajimi panami, jakim zaniaŭsia", bo nikomu ja nie najmaŭsia i wymahaju ad Dwarčanina paćwiardzieńnia jahonych słoŭ faktami.

A što datyča nacyjanalnaj čaści b. Hramady, dyk jana zapraŭdy jšła razam z nami — arhanizawanymi palityčna biełaruskimi sialanami — na wybarach i ciapier idzie razam, a kali jašče nie pajšoŭ chto, dyk, pačakajcie, pojdzie...

Pišučy, što ja „nie zachacieŭ padpisać samaha ŭniosku klubu „Zmahańnia" p. dr. Dwarčanin sam pryznaje, što padpisańnie „ŭniosku" maje mienšaje značeńnie, jak hałasawańnie za jaho, a za „ŭniosak" ab prypynie sudowaj sprawy pasłoŭ Stahanowiča j Hreckaha ja hałasawaŭ, ab čym Dwarčanin zamoŭčuje. „Uniosak" "Zmahańnia" ab prypynieńniu sud. sprawy dwuch jichnich pasłoŭ padpisała piatnaccacioch pasłoŭ z usich 444; nia wiedaju; jakija biełaruskija pasłowie (nam i Dwarčanin hetaha nia piša) padpisali druhi ŭniosak h. zn. ab prypynie, ale pieršy — ab spynieńni sudu nad Hramadoj — padpisali tolki sami „zmahancy" dy adzin biełaruski niaščasnik, a jinšyja Biełarusy padpisać admowilisia. Ja py-

---

MARCELKA. Bahatyja, nadta bahatyja! Majuć kuchara, dvoch lakajoŭ—adzin taki charošy! Jak toj pan małady!.. choraša apranuty, vusiki, jak malavanyja; ja jaho tolki što sustreła... a pachnie... Parfumy j pamada...

PRONKA. Lakaj—kažaš A jaki jon?... oj, oj!... kažacie charošy j małady?...

MARCELKA. A kab ty sama pahladzieła — heta-ž niedaločka... Apranisia, maja ty załacienkaja, — zaviadu.

PRONKA (bje ŭ dałoni). Brylancik ty moj!.. Voś radaść!...

MARCELKA. Za heta daj mnie sała!..

PRONKA. Kolki chočaš!.. (Biare z palicy i kidaje jej, nakładaje šaŭkovaju chustku i vybiahaje za Marcelkaj z chaty).

MARCELKA (rahoča za vaknom).

Z a v i e s a.

A K T III.

(Pamiž druhim i trecim aktam prachodziać try hady. Scena pradstaŭlaje tuju samaju chatu Paŭlukovu, vidać tolki, što daŭno jaje nie prybirali: usio strašnie zapuščana. Niama lusterka, skromnaja paściela; u kutoch śmiaćcio. Pačynaje viečareć).

Ź J A V A I-aja.

PAŬLUK — ULLANA — PILIP — VURADNIK — DANIŁKA.

(U vadčynienych dźviarach, praz katoryja čutno, jak idzie doždž i vyje viecier, stajić Paŭluk; u vadnej rucce jon trymaje lulku, pykajučy ź jaje, i što časinu padnosie jaje da vusnaŭ, paśla adyjmaje j apuščaje ź joj ruku. Na panadvorku hamaniać, zdaloku čutny kryk: Pa-a-ro-om! Paŭluk, nachinajučysia, hladzić. Vidać, jak Pilip i Daniłka biahuć, a praz časinu čutno, jak padjaždžaje bryčka pad dźviery chaty. Uchodzie vuradnik u mundziery z huzikami i chvormiennaj šapcy; za jim Pilip i Ullana).

PILIP (padyjšoŭšy da Paŭluka). Dzievier nia hniewajsia na nas, kali łaska, ale my ciapieraka pana vuradnika praz reku pieravozili i ŭsio jamu raskazali.

PAŬLUK (kiŭkom hałavy vitaje vuradnika i z trudom havora). A što vy hetamu panu kazali.

ULLANA. A što hena vałačajka...

PILIP (pierapyniajučy). Što Pronka niejdzie padziełasia i tolki času niama. Treba-ž daviedacca, što ź joju?..

PAŬLUK (vostra, za złościaj). Čort vas za jazyk ciahnyŭ!.

PILIP (skrabučysia ŭ hałavie). Ja moža-b i nie kazaŭ, ale Ullana pačała...

ULLANA. Ale, ale!.. Panie vuradnik, uciakła.

VURADNIK (razhladajučysia pa chacie). A što, Akuniu, žonka tabie, čuju, prapała, sbiežała, čto-li? Prapała? A možet byt' jaje hdzie ubili, ci patanuła, ha? A čamu stolki vremieni palicii u upravlennie nie dałažyli? Može-b pašukali j znajšli...

ULLANA (kłaniajučysia vuradniku ŭ nohi). Spraviadliva kaža pan vuradnik.

VURADNIK. A jon nie žalejet. Charošaja žančyna sbiežała, a jon ničevo. Stydna tabie! (Śmiajecca).

PAŬLUK (pierapyniajučy jaho śmiech). Jana nie ŭciakła, nie ŭtapiłasia, nichto jaje nie zabiŭ... Da svaje radni pajšła...

ULLANA (cienienka). Aha!.. da radni pajšła, niama viedama tolki, kali vierniecca...

PILIP (zasyčeŭ za žonkaj). C-c-c-c!..

PAŬLUK. Palicyi ja nie nakazavaŭ i nakazyvać nia budu, bo tut nijakaja palicyja nie patrebnaja. Ja sam jaje palicyja.

VURADNIK (niezdavoleny). Voś, jaki hordy... Smatri!.. Ty joj značit razrešenie dał?.. A?

PAŬLUK (ćviorda). Daŭ.

DANIŁKA (katory pry słovach vuradnikavych źjaviŭsia na parozie, śmiajecca, zakryvajučysia rukami).

VURADNIK (hnieŭna, apranajučy šapku). Nu, kali tak, to mnie tut niečevo dziełać. (Da Daniłki). Nu, pajezžaj. (Pajšli).

PAŬLUK (da vychodziačych Pilipa j Ullany). A vy trymajcie jazyki za zubami, bo chacia ja j supakojny, hnieŭ svoj pakazać patraplu. Što vam za dzieła, što jana pajšła i kali vierniecca? Kali-b jana j zrabiła niešta błahoje, dyk mnie, a nia vam, voś što! Ale jana ničoha drennaha nie zrabiła. Pajšła da radni i z majim dazvaleńniam pajšła. I maŭčecie. Kab ja nikoli nia čuŭ vašaje hutarki ab joj!.. Čujecie?..

ULLANA (zatrymaŭšysia na parozie). Oj, Paŭlučok. Musić ty nas zusim nia lubiš, kali nad nami tak ździekuješsia i ŭsio praz tuju samuju šelmu.

PAŬLUK. Nia ździekujusia ja nad vami, a tolki prašu j prykazuju, kab vy nie rabili taho, što mnie nia luba!.. a jana pajšła da radni, majučy majo dazvaleńnie, i mnie dobra viedama, kali verniecca. (Advaročujecca j idzie ŭ hłyb chaty).

ULLANA (vychodzie, machnuŭšy rukoj).

(Viečareje; praz pračynianyja dźviery padaje śviet iz susiedniaj chaty; praz vakonca zahladaje miesiac. Z daloku dalataje brech sabak. Krychu pačakaŭšy, čutny ciažkija kroki; uchodzie skorčanaja Aŭdoćcia i siadaje nizka kala Paŭluka; katory siadzić u kucie na skryni; śviet ad miesiaca padaje na jich abajich).

Dalej budzie.

laŭsia ŭ p. Dwarčanina: čamu jon jichniaha pastupku nie nazywaje ahidnym, ci moža liča niżej swajho honaru ab jich uspaminać? Ale-ż i ja ničym nie zasłużyŭ u jaho hetakaj „pašany“ da siabie.

Wiedama, ja nie padpisaŭ dwuch unioskaŭ „Zmahańnia“ nia dziela taho, što jich nie padpisali jinšyja pasłowie, ale dziela pryčynaŭ ważniejszych.

Ab pieršym uniosku ab spynieńni sudu nad Hramadoj ja, praŭda, zaciemiŭ jahonym inicjataram, što jon napisany ŭ niepryzwaitaj formie i heta była praŭda, dziela henaj niapryzwaitaści marš. Dašynski wiarnuŭ jim uniosak nazad. Ale niepryzwaitaść była hałoŭnaj pryčynaju maje admowy ad padpisańnia jaho. Hałoŭnaj pryčynaju było jahonaja widawočnaja demonstracyjnaść, demonstracyjnaść świadomaja ab čym mnie zajawiŭ tady adzin z pasłoŭ „Zmahańnia“ (kali-b jon wymahaŭ, dyk proźwišča nadrukuju), ale demonstracyja hrupy demonstrujučaj u Sojmie swaju solidarnaść z komunistymi (salidarnaje stukańnie, świst), była ŭ dadzienym prypadku prawokacyjaj, jak prowokacyjaj było ŭbiŭstwa Huryna, jak prowokacyjaj nadowiČy była demonstracyja komunistyčnych polskich pasłoŭ u sali sudu. Prowakawać kaho-koleČy, ja nia źbiraju, a zasłužonych biełaruskich dziejačoŭ i pahatowie prowakawać nie chaču.

A nie padpisaŭ ja druhoha ŭniosku dziela taho, što naahul nia liču mahčymym salidaryzawacca z ludźmi, katoryja raźkiwali biełaruski ruch na wybarach, chočučy addać jaho pad čužoje, warožaje jamu kiraŭnictwa, katoryja wielmi paškodzili swajoj rabotaj biełaruskaj kulturnaj pracy i škodziać ciapieraka dalej.

Z pašanaju dr. *J. Stankiewič* pasoł na Sojm
30.IV 1928 h.

# LISTY.

## Panskaja słužka.

M. **Baruny Ašmianskaha paw.** Časta prychodzicca pisać pra roznyja ašukanstwy dy bałamuctwy siarod biełaruskaha sialanstwa z boku čužych nam ludzioŭ, ale taksama časta prychodzicca spatkać woraha i ŭ wasobach samych-ža Biełarusaŭ, wiedama, nieświadomych. Padobnaje źjawišča było i ŭ našych Barunach.

Paśla świetłaj pamiaci našych byłych ksiandzoŭ Piatroŭskaha i Štafinkaha, jakija śmieła stajali na prawilnym narodnym hruńcie, źjawiŭsia ksiondz nowy — Juljan Baroŭka, jaki tak sama pačaŭ ličyć siabie Biełarusam. Zdajecca, byłob usio dobra: majem swajho ksiandza, što nia čurajecca nas — sialan, hawora ŭ našaj biełaruskaj mowie, až prybliżylisia apošnija wybary ŭ Sojm i Senat ! tut naš probaršč pakazaŭ swajo zapraŭdnaje abličča. Uwieś čas až pieniŭsia, ahitujučy tutejšaje sialanstwa hałasawać za endecki Nr. 25. Kali-ž adbylisia wybary i ksiandzoŭskaja ahitacyja nia mieła tut nijakaha ŭpływu, to biedny ksiandzok až wałasy sabie draŭ na haławie i pry spaŭnienin swajich kaścielnych abawiazkaŭ, usim hawora, što słuchaju was nieachwotna, bo wy maje niepryjacieli, pradalisia Maskoŭcam. (!?) Cikawa, što ksiondz naš nia bačyć nijakoje roźnicy pamiž Biełarusam i Maskalom, kali biełaruskija śpiski liča maskoŭskimi. Ale ješče heta było-b paŭ biady, až tut na pieršy dzień Wialikadnia, kali zakryčyć naš proboršč z ambony, što swajim hałasawańniem ukryżywali Chrysta, što ŭsie biazbožniki i h. d. i h. d. Dyk wielmi prykra, što jość jašče „słuhi Božyja“, jakija swaje palityčnyja dy j nat asabistyja intaresy łučać z relihijaj i hetym samym siejuć siarod sialanstwa antyrelihijnyja nastroji. Ale naš narod nie taki ŭžo durny, jak proboršču zdajecca! Lepiej-by ksiandzok nia kryčaŭ, što ŭkryżawali Chrysta, hałasujučy za niamiłyja ksiandzu śpiski, a prosta-by skazaŭ, što mianie samoha ŭkryżawali, nie dajučy mahčymaści spoŭnić majich imknieńniaŭ. Tak ksiandzočku, nia wielmi choraša, ašukawać swoj ciomny narod, ahitujučy za škodnyja dla nas śpiski, a tym bolej miašać siudy relihiju, rabić Chrystowaju ideju aružžam u chodańniu za swaje asabistyja interesy, zamiest taho, kab być zapraŭdnym Chryścianskim dušpastyram. Swajimi niahodnymi pastupkami ks. Baroŭka pryčyniajecca da siejańnia procirelihijnych nastrojaŭ.

*Barunski.*

**Ad Redakcyji.** Raim Baruuskim parachwijanam padać žalbu na świajho proboršča Wilenskamu Arcybiskupu z wyličeńniam faktaŭ i prywodžańniem świedak, a kopiju hetaj žalby prysłać nam u redakcyju. Užo niekalki ksiandzoŭ pakarana Wilenskim Arcybiskupam za padobnaju rabotu.

# LISTY Ŭ REDAKCYJU.

Da Pana Redaktara biełaruskaj gazety „Narod“ u Wilni.

Wielmi prašu Pana Redaktara nadrukawać niżej padadzieny list u Wašaj pawažanaj gazecie:

U gazecie „Kurjer Wileński“ Nr. 67 była źmieščana karespadencyja pad zahałoŭkam „Całkowita reorganizacja byłej grupy p. Pawlukiewicza“, hdzie padadziena, što za hetaju rearhanizacyju ŭziaŭsia „wiadomy dziejač biełaruski — wiečny skarbnik“ — Todar Wiarnikoŭski, jaki maje prawodzić „sanacyju“ panawaŭšych da henul adnosinaŭ u arhanizacyjach b. hrupy p. Paŭlukiewiča.

Karespadencyja kančajecca pawiedamleńniam, što, pa wychadzie z arhanizacyi p. Paŭlukiewiča „wykinuty ź jaje hetkija tuzy, jak E. Drucki Padbiarezki, A. Jakimowič i M. Stankiewičanka, „niedošła pošlanka“.

Karespadencyja napisana Cyrskim, što ciapier na usłuhach u p. Wiarnikoŭskaha, a značycca pradychtowana samym Wiarnikoŭskim.

Na karespadencyju hetu liču patrebnym zajawić nastupnaje:

Dobra wiedajučy niekulki hod p. T. Wiarnikoŭskaha, nie mahu nijak zrazumieć jakuju sanacyju moža zrabić hety 70 hodni dzied, wyżyŭžy z rozumu, asabistaje česnaści i maralnaść jakoha, bolš jak padazronaja. Pracujučy ŭ „Praświecie“, niaraz čuła niecenzurnaju łajanku „sanatara“, biez razboru—budzie mužčyna pry hetym ci žančyna. Wiedaju ab wialikim skandale ŭ Chatcy, kali za roznyja, wielmi niecharošyja štučki „skarbnika“, pastanowaŭ rewizyjnaj kamisyi była adobrana ad jaho kasa i jon amal nia wykinuty byŭ zusim z arhanizacyji. Ciapier iduć hutarki ab nowych kambinacyjach hetaha „biełaruskaha finansawaha dziejača...“ z hrupaj Andryjanawa... z mebielaj chatki... chabaroch... procentach... i h. d. i h. d...

Mnoha hawaryłasia j haworycca ab adnosinach jaho da mnimaj plamieńnicy—19-hodniaj dziaŭčyny, jakuju jon prywioz z wioski i dzieržyć pry sabie...

Dyk hety Raspucin, što nie nawučyŭsia nawiet dobra hawaryć pa biełarusku, najpieršy intryhant, platkar i łhun, maralna paskudny, maralna nieachajny, hety zapraŭdny „asenizatar“ biarecca za sanacyju? Śmiejacca treba dali-Boh... praź slozy... Biednaja ty našaja staronočka!..

Ciapieraka paru słoŭ ab wydaleńni z arhanizacyi. Wydalić mianie z arhanizacyi ni rasiejski manarchisty Wiarnikoŭski, ni jahonaja internacyjanalnaja kampanija,— tataryn Kanapacki, „chachoł“ Iuženka i tryhodni pieradawik rasiejskaj čarnasociennaj gazeciny „Wilenskoje Utro“, maskal Šybka, nijak nia mohuć: mianie wybiraŭ źjezd bolš jak 300 asobaŭ— praŭdziwych i ščyrych Biełarusoŭ, jaki j ŭzłažyŭ na mianie abawiazak sekratarki Centralnaj Rady „Praświety“; dyk zwolnić mianie ad hetaha abawiazku tak sama moža tolki ahulny schod siabroŭ „Praświety“, a nie zradaiki biełaruskaha narodu, jakija z pahardaj hladziać na biednaha sialanina i tolki nabiwajuć kišaniu na biełaruskaj sprawie: dzied T. Wiarnikoŭski dastaŭ kancesyju na łoto... na swajo imia... za što?.. peŭnie-ž nie za zasłuhi pierad biełaruskim narodam. Jon zrazu-ž pierastaŭ adpuščać tyja marnyja hrošy na „Praświetu“, na kleckuju himnazyju, na stypendyi wučniam wilenskaj himnazyi, studentam, katoryja adpuščała raniej „Chatka“, zatoje naznačyŭ swaim wiernym słužkam pa 800 i nawiet balej załatowak u miesiac pensyi, dziažurnych, dadatkowych, despozycyjnych i h. d. — woś pieršyja samastojnyja kroki T. Wiarnikoŭskaha. Ni wodnaha hroša na „Praświetu“.

Tak znaj-ža dzied, što ja dačka sialanina i narodnaja wučycielka, usie swaje siły addawała i addam na słužeńnie mnoha-pakutnamu biełaruskamu narodu i hetaj pracy aświetnaj nikoli nia kinu; ciapier ja mocna chworaja, i nia wykinuli wy mianie, a pa niaščaści časowa tolki adyšła ja ad pracy na niwie narodnaj, ab čym i padała zajawu panu staršyni „Praświety“, adyjšła kab zabrać rastračanyja siły i iznoŭ uziacca za aświetnaju rabotu. Sekratarkaj Centr. Rady „Praświety“ ja źjaŭlajusia z 1926 h., pracawała ŭwieś čas idejna, nie dastajučy ani wodnaha hroša, za wyniatkam apošnich niekalkich miesiacaŭ, kali ja pracawała ŭ Wilni i wiała ŭsiu kancyliaryju, za jakuju pracu bolšaja pałowa hrošaj mnie nia wypłačana (pensyja była 120 zł. u miesiac).

Z „Praświety“ ja nie wychodžu, ale z ašukancami narodu, z ludźmi nie Biełarusami i nat nie biełaruskaj nacyjanalnaści wiaści biełaruskuju pracu nia chaču i nia budu; na ahulnym schodzie, kali siły dazwolać, pastarajusia być i ŭsim siabram wyświatlić ahidnaju i zdradnickaju rolu Wiarnikoŭskaha: bož jon, „wiečny skarbnik“, zaŭsiody staraŭsia tolki nažycca na biełaruskaj sprawie, nabiŭ kišaniu jak skarbnik Chatki, za što i wykinuty byŭ z zawiedywańnia kasaj. Ale-ž nie prywykać jamu, bo-ž za hetakuju samuju štučku jon byŭ wyhnany i z Radaškoŭskaj gimnazyji.

Budučy skarbnikam u Biełaruskim Sekretarjacie— „skambinawaŭ sabie dobraju „palityku“ na Ukrajnie; u wajskowaj komisyi ŭ Łodzi — tak sama „kambinawaŭ“. Słowam — u biełaruskim ruchu ŭsiudy staraŭsia ŭleźci tam, dzie pachnuła hrašyma. A woś ciapier zusim jamu paščaściła, bo dastaŭ kancesyju na łoto i na swajo imia! Woś jahonyja słowy (a moža admowicca?):

„Plawać mnie na biełaruski narod, plawać na Biełarusaŭ; uhociki sabački jany, i dušyć ich budu!.. Počeściaŭ mnie nia treba... nia treba... byŭ ministram, zanimaŭ najšyrejšyja stanowišČy... usio heta mieŭ, a ciapier... tolki hrošy, tolki hrošy... kab abiaśpiečyć staraść!.. Woś jahonaje stanowišča, woś jahony pahlad na sprawu biełaruskaju. Tak my jaho razumiejem, nie ašukaje nas.

Ja peŭna, što na budučym schodzie, kali siabry dawiedajucca ŭsiu praŭdu ab dziejnaści T. Wiarnikoŭskaha, dyk hetamu niadojšłamu senataru, što hetak siabie reklamawaŭ u swajoj hazecinie, i dzie padaŭ partret i ŭłasnaju aŭtobiagrafiju, miesca siarod biełaruskaha narodu nia budzie.

Chacieŭ jon być senataram, papaŭ u „asenizatary“—tudy jamu j daroha...

*Maryja Stankiewičanka sekratarka Centr. Rady „Praświety“.*

Prašu nadrukawać usie biełaruskija hazety.
Harodźki, Wałožanskaha paw. 10.IV. 28 h.

*AD REDAKCYJI.* Zapraŭdy, treba było-b wielmi dziwicca, skul uzialisia henakija maralnyja dziŭstwy, jak T. Wiarnikoŭski i jahonyja maskoŭska-čarnasociennyja siabry, kali-b my nia wiedali, što ŭsie jany sabrany Paŭlukiewičam.

# Dziwosy j śmiachoty.

Były redaktar Paŭlukiewičawaha „Biełaruskaha Słowa“, ciapier „Hramadzianina“, T. Wiarnikoŭski napisaŭ u swajim časapisie manu, byccam „pasoł J. Stankiewič i pradstaŭniki polskaj demakracyji Wisławuch i Kisiel zdali na zaćwiardženńnie statut „Polska-Biełaruskaha Haspadarčaha T-wa. Jaremičawa „Sialanskaja Niwa“ ŭ Nr. 28 hetaju manu pašyryła i dadała ad siabie: „jak widzim, dyk palanafilskaje spadarawaje žyła tuha, ale-ž wylezła na pawierch našaj sučasnaści“.

Adkazujem, što šyła nia wylezła, bo jaho niama. Zatoje jano jość u Jaremiča, katory ŭ Sojmie hałasawaŭ razam z adzinkaj i polskimi buržuaznymi partyjami *proci* hrošaŭ na budoŭli biełaruskich gimnazyjeŭ i biełaruskija kulturnyja patreby.

Žadnaha „polska biełaruskaha T-wa“ ani pas. dr. J. Stankiewič ani ludzi bliskija da jaho nie zakładali i nia dumajuć zakładać.

Adciemim jašče, što absolwent wilenskaha ŭniwersytesu K. Kisiel, nie „pradstaŭnik polskaj demokracyji“, ale świadomy Biełarus; za ŭwieś čas wučeńnia ŭ uniwersytecie jon należyŭ i ciapier naleža da Biełaruskaha Studenskaha Sajuzu.

Dyk woś jak maniać panowie Jaremičy.

---

Ale Jaremič manić nia darma, jon, widać, zniuchaŭsia iz "słaŭnym" Todaram Wiarnikoŭskim, bo woś u Nr. 5 „Hramadzianina“ čytajem:

„Pasłu F. Jaremiču z siamjoj redakcyja (značycca sam T. Wiarnikoŭski!—*Red. „Nurodu“*) i suprac. „Hramadzianina“ šluć swajo spačuććio i h. d.“

Jak bačym, pryjaźń nia žarty; niama dziwa, što Jaremič pašyraje manu Wiarnikoŭskaha.

---

F. Jaremič byŭ pastaŭleny świedkaju z boku abwinawačanych na pracesie Hramady. Ale, jak i treba było spadziawacca, świedčyć jon nie zachacieŭ. Prypaminajem, što „Sialanskaja Niwa“ niahodna ŭdawała niekatorych abwinawačanych, z čaho skarystali na sudzie prokurory.

---

„Biełaruskaja Krynica“, što zachoplawałasia wielmi „Biełaruskaj Kulturaj“ Umiastoŭskaha (hlań „Bieł. Krynica“ Nr. 36 z 1927 h. i „Rodnyja Honi“ Nr. 6, star. 54 z 1927 h.), piša ŭ staćci „Kaścioł, Carkwa i Metodyzm“ (Nr. 28):

„Biełaruskija hrupy polonofilskija, ci, jak jich słušna nazywajuć, kazionnyja, adkryta ahitujuć za metodyzm („Bieł. Dzień“—hram. F. Umiastoŭskaha, „Rodnyja Honi“—hram. Janki Stankiewiča)“.

Niahodnaść ludzkaja nia maje hranicaŭ i hetamu, jak bačym, nie pieraškadžaje duchoŭny stan niahodnika. Pračytajcie, hramadzianie, uważna ŭsie numary „Rodn. Honieŭ“ i nia znajdziecie tam ani kaliŭca polonofilstwa ci agitacyji za metodyzm.

Hetaje mana duchoŭnamu ajcu ź „Bieł. Krynicy“ i jejnamu „redaktaru“ arhanistamu patrebna na toje, kab hram. J. Stankiewičam nastrašyć Biełarusaŭ katalikoŭ. Zaciemim jašče, što „Rod. Honi“ takija J. Stanktewiča, jak i inšych suwydaŭcaŭ.

---

Пацьвярджэньне чыстай польшчыны „Беларускага Дня“ знаходзім у ягоным нумары 15. Тутака артыкул „Школьная справа“ напісаны так, што быццам гэта Беларусы вінны, што ў Заходняй Беларусі няма беларускіх урадовых школаў, а ёсьць толькі беларускія школы прыватныя. Запраўды, ужо „Бел. Дзень“ перайшоў у сваёй лякайскай нягоднасьці і ўмерлае Паўлюкевічава „Беларускае Слова“.

---

**Braty Biełarusy, pašyrajcie swaju biełaruskaju hazetu „NAROD“.**

Wydawiectwa Biełaruskaje Sialanskaje Partyji. Drukarnia „Pax“, Wilnia, Świata-Ihnataŭskaja wul. 5. Redaktar B. Stankiewič.